


# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

16 ліпеня 2021 года №29 (1368) 18+


# Магія беларускай выцінанкі: каб лячыла ад хваробаў і ахоўвала пячатку ВКЛ



старонкі 20-21

Вольга Бабурына ў музеі выцінанкі ў Лоску, Валожынскі раён.
Фота Настассі УТКІНАЙ.



## Рыгор Сарока больш не ўзначальвае маладзечанкі музкаледж

старонка 2

## Агляд футбольных матчаў камандаў рэгёна

старонка 22

## На «лініі Сталіна» ў ДТЗ загінулі чатыры чалавекі. Асобы трох невядомыя

старонка 4


ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



## Дарогу Мінск-Ашмяны-мяжа Літоўскай Рэспублікі пакуль не будуць рэканструяваць

Аб гэтым паведаміў намеснік прэм'ер-міністра **Анатоль Сівак** на сустрэчы дэпутатаў Палаты Прадстаўнікоў.

Рэканструкцыю дарогі планавалі выканаць у рамках дамовы аб фінансаванні паміж Беларуссю і Еўрапейскім інвестбанкам.

На рэалізацыю праекта планавалі прыцягнуць пазыку ў памеры 110 мільёнаў еўра.

Пасля жнівеньскіх падзей у верасні 2020 года Еўрапейскі інвестыцыйны банк прыпыніў фінансаванне праекта на нявызначаны тэрмін.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Вілейцы быў пабіты тэмпературны рэкорд, які трымаўся 62 гады

10 ліпеня новыя тэмпературныя рэкорды былі зафіксаваны на 11 метэастанцыях Віцебскай, Гомельскай, Мінскай і Магілёўскай абласцей.

Адзін з пабітых рэкордаў трымаўся больш за 60 гадоў.

Гарачэй за ўсё было ў Жлобіне – 33 градусы вышэй за нуль (ранейшы лакальны максімум дня – 30,9 у 1989 годзе). У Полацку паветра прагрэлася да 32,5 (31,7 у 2006 годзе), у Вілейцы – да 31,8 (31 у 1959-м).

Чакаецца, што спякота з тэмпературай да 36 градусаў захаваецца да канца наступнага тыдня.

**Паводле naviny.by.**

## У Валожыне новы кіраўнік аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі

Аб гэтым паведамляе psl.by. Аддзел узначаліла **Ірына Жданюк**.

Жданюк нарадзілася ў Валожыне ў 1979 годзе. Скончыла БДУ па спецыяльнасці геаграфія, сацыяльная педагогіка, а ў 2008 годзе – Акадэмію паслядыпломнай адукацыі.

Работу пачынала настаўніцай геаграфіі ў школе №2 Валожына. Праз пяць гадоў перайшла ў раённы аддзел адукацыі метадыстам, а пасля спецыялістам першай катэгорыі апарата.

Ад 2010-га і да цяперашняга назначэння з'яўлялася намеснікам старшыні камісіі па справах непаўналетніх райвыканкама.

**Паводле psl.by.**

## Для вілейчука, якога судзяць па «справе студэнтаў», абвінаваўца запрасіў 2 гады і 6 месяцаў

16 ліпеня суд Савецкага раёна Мінска вынесе прысуд па «справе студэнтаў». Сярод абвінавачаных – віляйчук **Ягор Канецкі**.

Канецкі вучыцца на біялагічным факультэце БДУ. Ён сябра «Задзіночання беларускіх студэнтаў», актывіст «Вольнага прафсаюза». Ягор скончыў хіміка-біялагічны профіль Мінскага дзяржаўнага абласнога ліцэя. Хлопца затрымалі 12 лістапада, і з таго часу яго ўтрымліваюць пад вартай. Яму 22 гады. Праваабаронча арганізацыі Беларусі прызналі Ягора Канецкага палітычным зняволеным.

Працэс па «справе студэнтаў» пачаўся 14 мая.

Ягора Канецкага, як і іншых падсудных па справе, абвінавачваюць па артыкуле 342 Крымінальнага кодэкса «Арганізацыя ці ўдзел у дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак».

Канецкі стаў адзіным, хто адмовіўся даваць паказанні падчас судовага следства. Суд зачытаў тыя, якія віляйчук даваў падчас допытаў. У іх Ягор паведамляў, то негатыўных наступстваў акцыі студэнтаў не мелі. Таксама хлопец адмовіўся выступаць з апошнім словам – адзіны з абвінавачаных.

Паводле абвінавачання, віна Канецкага палягае ў тым, што ён размяшчаў допісы ў тэлеграм-каналах пра студэнцкі страйк.

Абвінаваўцы запрасілі для Ягора Канецкага два з паловай гады калоніі агульнага рэжыму. Абарона лічыць, што віна Канецкага не была даказаная ні падчас папярэдняга следства, ні падчас судовага.

Прысуд будзе вядомы ў пятніцу, 16 ліпеня.

**Настасся УТКІНА.**

## Забаранілі наведваць лясы Вілейскага раёна

Міністэрства лясной гаспадаркі ўвяло забарону на наведванне лясоў Вілейшчыны ад 11 ліпеня.

Абмежавалі наведванне лясоў Маладзечанскага, Валожынскага, Смаргонскага, Ашмянскага і Астравецкага раёнаў.

Такім чынам, на сёння ў рэгіёне Павілля наведваць лясы дазваляецца толькі ў Мядзельскім раёне.

**Аддзел інфармацыі.**



Рыгор Сямёнавіч Сарока.

Фота Святланы КУРЭЙЧЫК.

# Рыгор Сарока больш не ўзначальвае маладзечанскі музкаледж

**Апошні рабочы дзень на пасадзе дырэктара Маладзечанскага музычнага каледжа імя Агінскага ў Рыгора Сямёнавіча быў 12 ліпеня.**

**Рыгор Сарока** ўзначальваў каледж 41 год. Ён застаецца працаваць педагогам і дырыжорам аркестра. І, як прызнаецца, упершыню за доўгі час пойдзе ў сапраўдны адпачынак.

– Гэта было маё рашэнне, – расказвае Сарока. – Настрой у мяне цудоўны, буду працягваць займацца любімай справай. А пасада для мяне ніколі не была галоўным. Галоўнае – гэта прафесія.

Рыгор Сямёнавіч адзначыў, што ніколі не лічыў сябе незаменным, а наадварот, рыхтаваў кадры з тым, каб былі людзі, якія маглі б працягваць яго працу.

– Мая задача – захаваць у музкаледжы беларускі дух. Таму і замену рыхтаваў з тым, каб гэта быў наш выпускнік, здольны падтрымліваць набыткі каледжа.

Сарока адзначыў, што пакідае каледж з магутным калектывам, выдатнай базай інструментаў, адрамантаванымі памяшканнямі. Важна захаваць усё добрае, што было зроблена за гады працы ўстановы.

Цяпер абавязкі дырэктара каледжа выконвае **Руслан Іосіфавіч Апановіч**.

– Гэта адзін з лепшых нашых выпускнікоў, піяніст, валодае беларускай і англійскай мовамі. Скончыў не толькі кансерваторыю, але і аспірантуру. Паспяхова працаваў на пасадзе намесніка дырэктара. Гэта мая кандыдатура, спадзяюся, менавіта Руслана Апановіча і прызначаць кіраваць каледжам.



Фота molinfo.by.

Руслан Іосіфавіч Апановіч.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

## Двухгадовы хлопчык у Смаргоні выпаў з чацвёртага паверха

Вечарам 10 ліпеня ў рэанімацыю даставілі двухгадовага хлопчыка са шматлікімі пераломамі.

Папярэдне высветлілі, што хлопчык быў дома з маці ў Смаргоні. Калі застаўся ў пакоі адзін, залез на падаконнік і выпаў з адчыненага акна чацвёртага паверха.

Дзіця, якое ляжала на зямлі, знайшла маці.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Міліцыя шукае сведкаў, як гарэла электрычка ў Баярах

Здарэнне на станцыі Баяры адбылося днём 26 чэрвеня.

Электрычка «Маладзечна-Мінск» рушыла па перагоне каля Баяраў. Каля 11:40 машыніст заўважыў паміж 9 і 10 вагонамі задымленне. Электрычку спынілі і высадзілі пасажыраў. Брыгада электрычкі пачала тушыць агонь самастойна, пасля выклікалі супрацоўнікаў МНС.

Пажар ліквідавалі ў 12:18. У выніку здарэння людзі не пацярпелі. Пашкоджаныя тамбуры 9 і 10 вагонаў.

Цяпер Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце шукае відавочцаў і сведкаў здарэння. Просяць тых, хто ехаў гэтай электрычкай і валодае інфармацыяй, якая дапаможа высветліць абставіны здарэння, звярнуцца да іх.

Нумары для сувязі: +375 29 788-98-97, +375 29 240-57-66.

**Аддзел інфармацыі.**



Каб пікнік атрымаўся ўдалым, варта паклапаціцца не толькі пра ежу.

# Што пакласці ў аптэчку, калі збіраецеся на пікнік?

**Выезды на пікнік амаль заўсёды прыносяць станоўчыя эмоцыі: смачная ежа, рухомыя гульні, жывыя зносіны. Чаму «амаль»? А таму, што азмрочыць добры настрой можа раптоўная алергія, укусы камароў, парэзы і ранкі, цяжар у страўніку ад вялікай колькасці ежы і іншыя сюрпрызы.**

Каб быць гатовым да такіх нечаканасцяў, загадзя трэба сабраць аптэчку. А пра тое, што варта туды пакласці, раскажа бабруйскі правізар **Анастасія Цітова**.

Вось што спецыяліст раіць мець у летняй аптэчцы:

– у абавязковым парадку лекі, якія вы прымаеце на рэгулярнай аснове: якія зніжаюць ціск і цукар, супрацьастматычныя балончыкі, гармональныя прэпараты. Прадугледзьце, што, магчыма, аднадзённы пікнік расцягнецца па часе, а многія з пералічаных лекавых сродкаў прапускаць нельга часам нават на гадзіну;

– страўнікава-кішачныя прэпараты: смекту, парашок для падрыхтоўкі водна-солевага раствора, лоперамід.

> Важна! Апошні прэпарат нельга даваць дзецям да 12 гадоў, а дарослым – толькі ў выпадку вострай неабходнасці.

На ўсялякі выпадак з сабой варта ўзяць і ферментныя прэпараты, якія дапамогуць вам, калі адчуеце, што пераелі – мезім, крэон, панкрэацін. А таксама нешта ад пякоткі – рэні, рэнелокс, гастрасофт або маалокс.

> **Калі з вамі едуць дзеці, абавязкова пацікаўцеся ў свайго педыятра, як дазаваць ферментны прэпарат для дзіцяці адпаведнага ўзросту;**

– супрацьалергічныя прэпараты і крэмы. Таблеткі дапамогуць хутка зняць сімптомы алергіі (лекавыя сродкі на аснове цэтырызіна, лоратадзіна падыходзяць і дзецям, і дарослым), а крэм дапаможа пры ўкусах насякомых;

– у аптэчку для дзяцей варта дадаць жарапаніжальныя свечкі. Толькі выбірайце тыя, што захоўваюцца пры пакаёвай тэмпературы;

– вазьміце з сабой спрэй, гель альбо ласьён ад насякомых, сонцаахоўны крэм і крэм пасля апёкаў, бінт, вату, ёд, перакіс вадароду або зялёнку для апрацоўкі ран, з дзясятак пластыраў.

> Важна! Варта памятаць, што крэм з SPF-абаронай трэба наносіць на скуру твару і цела да выхаду на вуліцу, а затым яго перыядычна абнаўляць.

Калі гэта не першы ваш пікнік, то ўспомніце, з якімі непрыемнасцямі вы сутыкнуліся ў мінулы раз, і дакладзіце адпаведныя сродкі ў аптэчку.

> Важна! Памятайце, што большасць лекавых прэпаратаў захоўваецца пры тэмпературы не вышэй за 25 градусаў. Асабліва істотна гэта ў летніх паездках – таму загадзя прадумайце правільнае месца для аптэчкі.

**Алена САДОЎСКАЯ, «Вячэрні Бабруйск».**

## Міліцыя шукае сведкаў, як гарэла электрычка ў Баярах

Здарэнне на станцыі Баяры адбылося днём 26 чэрвеня.

Электрычка «Маладзечна-Мінск» ішла па перагоне каля Баяраў. Каля 11:40 машыніст электрацягніка заўважыў паміж 9 і 10 вагонамі задымленне. Электрычку спынілі і высадзілі пасажыраў. Яе брыгада пачала тушыць агонь самастойна, пасля выклікалі супрацоўнікаў МНС.

Пажар ліквідавалі ў 12:18. У выніку здарэння людзі не пацярпелі. Пашкоджаныя тамбуры 9 і 10 вагонаў.

Цяпер Маладзечанскае аддзяленне ўнутраных спраў на транспарце шукае відавочцаў і сведкаў здарэння. Просяць тых, хто ехаў гэтай электрычкай і валодае інфармацыяй, якая дапамажа высветліць абставіны здарэння, звярнуцца да іх.

Нумары для сувязі: **(8-029) 788-98-97, (8-029) 240-57-66.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Дарогу Мінск-Ашмяны-мяжа Літоўскай Рэспублікі пакуль не будуць рэканструяваць

Рэканструкцыя аўтамабільнай дарогі М-7 Мінск – Ашмяны – мяжа Літоўскай Рэспублікі (Каменны Лог) прыпыненая. Аб гэтым паведаміў намеснік прэм'ер-міністра **Анатоль Сівак**.

Рэканструкцыю дарогі планавалі выканаць у рамках дамовы аб фінансаванні паміж Беларуссю і Еўрапейскім інвестыцыйным банкам.

На рэалізацыю праекта планавалі прыцягнуць пазыку ў памеры 110 мільёнаў еўра.

Пасля жнівеньскіх падзей у верасні 2020 года Еўрапейскі інвестыцыйны банк прыпыніў фінансаванне праекта на нявызначаны тэрмін.

**Паводле ostrovets.by.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.07 | 15.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5552 | **2.5613** |
| Еўра | 3.0223 | **3.0212** |
| Злоты, 10 | 6.6896 | **6.5901** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4495 | **3.4578** |
| Грыўня, 100 | 9.3693 | **9.3833** |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **7.07** | **14.07** |
| Еўра | 2.9800/3.0500 | **2.9800/3.0700** |
| Долар ЗША | 2.5100/2.5900 | **2.5300/2.6100** |
| **ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)** | | |
| **ПРАДУКТЫ** | **7.07** | **14.07** |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,60 | **4,60** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,50 | **6,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,50 | **2,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,20 | **4,20** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,80 | **2,80** |
| Агуркі, 1 кг | 1,30 | **1,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 4,20 | **4,20** |
| Бульба маладая, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Буракі, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Капуста маладая, 1 кг | 1,80 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Памідоры, 1 кг | 4,00 | **4,00** |
| Перац, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,70 | **1,70** |
| Часнок, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Шампіньёны, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Абрыкосы, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,80 | **2,80** |
| Вінаград, 1 кг | 7,00 | **7,00** |
| Грушы, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Дыня, 1 кг | 3,00 | **3,00** |
| Кавуны, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| Лімоны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Слівы, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,50 | **2,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## Двухгадовы хлопчык выпаў з чацвёртага паверха

**СМАРГОНЬ**

Вечарам 10 ліпеня ў рэанімацыю даставілі двухгадовага хлопчыка са шматлікімі пераломамі.

Папярэдне высветлілі, што хлопчык быў дома з маці ў Смаргоні. Калі застаўся ў пакоі адзін, залез на падаконнік і выпаў з адкрытага акна чацвёртага паверха.

Дзіця, якое ляжала на зямлі, знайшла маці. Хлопчыка шпіталізавалі. Цяпер яго жыццю нічога не пагражае.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Катамаран з пяццю пасажырамі перакуліўся на Нарачы

**МЯДЗЕЛ**

На выхадных на возеры Нарач перакуліўся катамаран з людзьмі.

10 ліпеня каля 13 гадзін мясцовыя выратавальнікі атрымалі паведамленне аб здарэнні: на возеры перакуліўся катамаран. Здарэнне адбылося на возеры Нарач ля курортнага пасёлка Нарач Мядзельскага раёна.

Работнікі Асвод выратавалі трох мужчын 1986, 1991, 1992 гадоў нараджэння і дзвюх жанчын 1985 гадоў нараджэння. У медыцынскай дапамозе яны патрэбу не мелі.

**Паводле БелТА.**

## Смаргонцу прысудзілі год «хіміі»: ён капіраваў дадзеныя сілавікоў і змяшчаў іх у тэлеграме

**СМАРГОНЬ**

Смаргонец атрымаў адзін год з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу за размяшчэнне дадзеных сілавікоў у тэлеграм-канале. Аб гэтым паведаміла прэс-служба Генеральнай пракуратуры.

**26-гадовага смаргонца асудзілі за несанкцыянаванае капіраванне камп'ютарнай інфармацыі, што пацягнула істотную шкоду.**

Мужчына працаваў спецыялістам па працы з кліентамі ў салоне сувязі. Ён меў доступ да базы дадзеных кліентаў. У верасні 2020 года абвінавачаны скапіраваў звесткі аб адрасах і нумарах тэлефонаў супрацоўнікаў Смаргонскага РАУС. Атрыманую інфармацыю ён размясціў у тэлеграм-чаце.

Абвінавачаны прызнаў віну цалкам, раскаяўся і кампенсаваў пацярпелым маральную шкоду.

**Аддзел інфармацыі.**

## Матацыкліст збіў дзіка на дарозе Астравец-Ашмяны

**АСТРАВЕЦ**

Матацыкліст сутыкнуўся з дзікай жывёлай у Астравецкім раёне. 10 ліпеня каля 8 гадзін на 17-м кіламетры дарогі Газа-Астравец-Ашмяны адбылося ДТЗ. 48-гадовы мужчына на матацыкле «Хонда» сутыкнуўся з дзіком. Жывёла загінула.

Мужчыну даставілі непрытомнага ў рэанімацыйнае аддзяленне Астравецкай бальніцы.

Прычыны і іншыя абставіны ДТЗ высветліць праверка.

**Паводле ДАІ Гродзенскага аблвыканкама.**

## Знайшоўся грыбнік, што знік каля Ілы. Ён прабыў у лесе больш за тры дні

**ВІЛЕЙКА**

Пра гэта паведамілі ў Вілейскім РАУС. Мужчына жывы.

Зніклага знайшлі ў лясным масіве падчас пошукавых мерапрыемстваў каля вёскі Дварэц. Яго адшукала зводная група з 40 чалавек: валанцёры пашуково-выратавальнага атрада «Анёл», супрацоўнікі рэспубліканскага атрада спецыяльнага прызначэння, пажарны аварыйна-выратавальны атрад, МНС, РАУС, мясцовыя жыхары і сваякі.

Грыбнік быў кіламетры за два ад вёскі Дварэц Ільянскага сельсавета, адкуль пайшоў у лес раніцай 5 ліпеня.

**– Мужчына заблукаў і страціў шмат сіл, тым больш, у яго хворае сэрца, – адзначылі ў Вілейскім РАУС.**

Мужчыну перадалі брыгадзе хуткай дапамогі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота Следчага камітэта.

На месцы здарэння.

# На «Лініі Сталіна» у ДТЗ загінула чацвёра

**Следчыя высвятляюць абставіны смяротнага ДТЗ на маладзечанскай трасе, у якім загінулі чатыры чалавекі. Аб гэтым паведамляе Следчы камітэт.**

**МАЛАДЗЕЧНА**

9 ліпеня каля 21 гадзіны ля вёскі Гарошкі ў Мінскім раёне адбылося лабавое сутыкненне мікраааўтобуса і матацыкла.

Следчыя высветлілі, што матацыкл рухаўся ў кірунку Маладзечна. Кіроўца матацыкла выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся з мікрааўтобусам. Аўтамабілем кіраваў 34-гадовы жыхар Маладзечна. Пасля сутыкнення матацыкл і аўто загарэліся.

У выніку ДТЗ загінулі чатыры чалавекі. Высветліць асобы трох чалавек немагчыма з-за моцных апёкаў твару і цела.

Следчы камітэт узбудзіў крымінальную справу па частцы 3 артыкула 317 Крымінальнага кодэкса «Парушэнне правіл дарожнага руху, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць дзвюх і больш асоб».

Следчыя звяртаюцца да грамадзян, у якіх ёсць звесткі пра здарэнне, звярнуцца ва Упраўленне Следчага камітэта па Мінскай вобласці: 8(017)-226-17-97 і 8(029)-698-97-39.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Смаргонец купіў бензапілу вядомага брэнда за 600 рублёў. Высветлілася, што гэта падробка, якая каштуе ў два разы танней

**СМАРГОНЬ**

У адным з гандлёвых аб'ектаў у Смаргоні мужчына купіў бензапілу «з рук». За яе заплаціў 600 рублёў. Прадавец расказаў, што бензапіла ад нямецкага брэнда STIHL, на тавары быў лагатып гэтай фірмы.

**Электраінструмент не быў упакаваны ў каробку і да яго не прыкладалася ніякіх дакументаў. Перад пакупкай мужчыну паказалі, як працуе бензапіла.**

Праз некаторы час смаргонец засумняваўся, што бензапіла з'яўляецца арыгінальнай. Ён звярнуўся ў Смаргонскі РАУС.

Судовая экспертыза высветліла, што бензапіла не з'яўляецца арыгінальнай STIHL. Яна адрознівалася ад арыгінальнага вырабу вагой, камплектацыяй, пакаваннем камплектуючых элементаў, канструкцыйнымі асаблівасцямі.

**У бензапілы адсутнічаў таксама і серыйны нумар. Згодна з вынікамі судовай экспертызы, рэальны кошт бензапілы быў у два разы меншы.**

Па дадзеным факце праводзіцца праверка.

**Паводле Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз.**

## У Астраўцы 10-гадовая дзяўчынка звалілася на казырок шматпавярхоўкі

**АСТРАВЕЦ**

Яе ратавалі пажарныя, паведамляе прэс-служба МНС.

12 ліпеня каля 17 гадзін у цэнтр аператыўнага ўпраўлення Астравецкага аддзела МНС патэлефанавала дзяўчынка. Яна паведаміла, што знаходзіцца на балконным казырку і не можа самастойна адтуль выбрацца.

**Выратавальнікі знайшлі дзяўчынку на казырку дома на сёмым паверсе.**

Да яе спусціўся выратавальнік, надзеў на яе выратавальныя рамяні, а затым яе паднялі пажарныя.

10-гадовая дзяўчынка расказала, што разам з сяброўкай гуляла па даху. Калі села на парапет, ад парыву ветру страціла раўнавагу і звалілася на казырок. Затым яна папрасіла сяброўку скінуць ёй заплечнік, у якім быў мабільны тэлефон, і патэлефанавала ў службу 101. Медыцынская дапамога ён не спатрэбілася.

**Паводле МНС.**

## Гродзенскія мытнікі спынілі аўтамабіль, у якім везлі італьянскія шпалеры з заніжаным коштам у чатыры разы

**АСТРАВЕЦ**

У пункце пропуску «Катлоўка» спынілі аўтамабіль, які вёз італьянскія шпалеры, кошт якіх занізілі ў чатыры разы. Партыю італьянскіх вінілавых шпалераў коштам 58 тысяч долараў спрабавалі незаконна прывезці на тэрыторыю Беларусі. Аўтамабіль ехаў з Літвы праз пагранічны пункт «Катлоўка».

**Кіроўца аўтамабіля даў дакументы, у якіх кошт шпалераў складаў 14,5 тысячы долараў. Мытнікі высветлілі, што кошт быў заніжаны ў чатыры раз.**

Па факце распачалі адміністрацыйны працэс па частцы 3 артыкула 15.5 КаАП. Санкцыя артыкула прадугледжвае штраф у памеры да 30% ад кошту тавару.

Тыдзень таму на беларуска-літоўскай мяжы выявілі аналагічнае парушэнне. Тады шпалеры і ламінат везлі з Літвы праз «Каменны Лог». Кошт быў заніжаны ў тры разы.

**Паводле Гродзенскай рэгіянальнай мытні.**

# Педыятр: дзіця можа піць ваду з халадзільніка і хадзіць басанож

**Якія памылкі робяць маладыя бацькі адносна здароўя дзяцей? У якім выпадку можна лічыць, што дзіця часта хварэе? Як умацоўваць дзіцячы імунітэт?**

Пра гэта і не толькі гутарым з доктарам-педыятрам Бабруйскай гарадской дзіцячай паліклінікі №4 **Ганнай Ткач**.

### «Трэба звяртаць увагу не на колькасць хвароб, а на тое, як яны працякаюць»

**– Ганна Васільеўна, якія памылкі часцей за ўсё робяць маладыя бацькі ў адносінах да дзіцяці? Што вас хвалюе як педыятра?**

– Мяне хвалюе, калі бацькі адмаўляюцца ад неабходнай вакцынацыі і груднога харчавання. Хоць варта адзначыць, што тат і мам з такім пунктам гледжання няшмат.

Хвалюе выхаванне. Падчас прыёму перыядычна даводзіцца сутыкацца з некіруемымі дзецьмі. Мне як педыятру хацелася б, каб дзіця прыходзіла падрыхтаваным у паліклініку: ведала, куды ідзе і навошта. Гэта палягчае не толькі кантакт, але і станоўча адбіваецца на далейшым лячэнні. Напрыклад, цяжка аглядаць дзіцяці горла, калі яно не хоча адкрываць рот або капрызіць. Я думаю, што кожны з бацькоў можа растлумачыць дзіцяці, хай нават у казачнай форме, да каго яны збіраюцца ісці.

**– На што часцей за ўсё хварэюць дзеці і падлеткі?**

– Вядома ж, на інфекцыйныя хваробы, акрамя іх, у дзяцей сустракаюцца алергія, атлусценне, цукровы дыябет, бранхіяльная астма, артэрыяльная гіпертэнзія, нейрадэрміты, язвавая хвароба страўніка і дванаццаціперснай кішкі.

Але нельга сказаць, што дзеці сталі хварэць часцей чым, напрыклад, дзесяць гадоў таму. Так, павялічылася колькасць дзяцей, якіх мы адносім не да першай групы здароўя, а да другой і да трэцяй, але гэта звязана з тым, што ад 2016 года ў Беларусі дзеці ад месяца і да 18 гадоў штогод праходзяць дыспансерызацыю. Падчас гэтых дбайных абследаванняў мы выяўляем пэўныя парушэнні, якія не дазваляюць аднесці дзіця да першай групы здароўя.

**– У якім выпадку можна лічыць, што дзіця часта хварэе?**

– Калі дзіця ва ўзросце да года хварэе чатыры разы на год і больш, ад года да трох – больш за шэсць разоў, ад трох да пяці гадоў – больш за пяць разоў, старэйшыя за пяць гадоў – больш за чатыры раз, то яго адносяць да тых, хто часта хварэе. Але тут важна іншае: тое, як працякаюць захворванні і ці даюць ускладненні. Калі гэтага не адбываецца і дзіця выздараўлівае на працягу сямі-васьмі дзён, то ў гэтым выпадку хвалявацца не варта. А вось калі кожная прастуда заканчваецца бранхітам, пнеўманіяй, то гэта гаворыць пра зніжаны імунітэт, і такому дзіцяці трэба больш пільная ўвага з боку бацькоў і дактароў.

**– У якіх выпадках бацькам трэба звяртацца да педыятра, а ў якіх усё ж такі можна лячыць дзіця самастойна?**

– Калі ў дзіцяці моцны галаўны боль разам з сыпам або вадкі стул з сімптомамі абязводжвання, гэта значыць, калі дзіця не мочыцца, ці высокая тэмпература – 39-40 градусаў, ці кроў у стуле – у гэтых сітуацыях да доктара трэба звяртацца неадкладна.

Але калі ў дзіцяці нязначны насмарк, чхае, тэмпература 37-37,2 градуса, то бацькі могуць station назіраць за дзіцем на працягу двух дзён дома. Калі нейкія сімптомы ўзмоцняцца, то тады варта выклікаць доктара.

**– А калі маці заўважыла ў дзіцяці павялічаныя лімфавузлы, ці варта з-за гэтага хвалявацца? Звяртацца да доктара?**

– Трэба адрозніваць павялічаныя лімфавузлы і запалёныя. Запалёны лімфавузел гарачы навобмацак, балючы, ёсць пачырванненне, у гэтым выпадку бацькам варта неадкладна звяртацца да доктара.

Калі лімфавузел павялічаны, але не запалёны, што, дарэчы, нярэдка можна назіраць у тых дзяцей, якія часта хварэюць, пры гэтым дзіця актыўнае, то да доктара таксама варта звярнуцца, але гэта не падстава для нейкіх экстранных мер. Гэта значыць, бацькі могуць звярнуцца да доктара на наступны дзень, пасля таго, як заўважылі павялічаны лімфавузел.

### «Працяглы кашаль у дзіцяці – гэта вынік яго пасіўнага курэння»

**– Ці рэальна гадаваць дзіця так, каб яно не хварэла? І як можна ўмацоўваць імунітэт дзіцяці?**

– Пакуль дзіця расце, яно будзе хварэць у любым выпадку, калі не тры-чатыры разы на год, то два.

Што тычыцца імунітэту, закладзены імунітэт мы не зменім, але ўмацоўваць яго можна. Што для гэтага трэба? Добра, калі дзіця садкоўскага ўзросту будзе знаходзіцца на вуліцы да трох-чатырох гадзін у дзень, таму бацькам не варта абураць, калі дзеці ў садзе доўга шпацыруюць на свежым паветры, ім гэта толькі на карысць.

Бацькам таксама трэба зразумець, што здароўе – гэта справа ўсёй сям'і. І таму вельмі важна, каб яны самі актыўна ў гэтым удзельнічалі: разам правільна харчаваліся, больш часу з дзіцем праводзілі на свежым паветры.

Можна таксама даць і наступныя рэкамендацыі: дзіцяці не трэба падаграваць ваду, яе лепш даваць пакаёвай тэмпературы, а праз нейкі час яно можа піць, узяўшы ўжо з халадзільніка. Дзіця не трэба хутаць. Калі пачне хадзіць, надзявайце спачатку шкарпэткі, а праз нейкі час хай ходзіць басанож. Гэта карысна і для трэніроўкі ступні. Але ва ўсім гэтым важная паступовасць.

У пакоі, дзе знаходзіцца дзіця, тэмпература паветра павінна быць 22 градусы, вільготнасць – 50 працэнтаў.

Таксама важна, каб дзіця не было пасіўным курцом. Напрыклад, працяглы кашаль дзіцяці – гэта якраз вынік яго пасіўнага курэння.

**– Якія б вы параілі спартыўныя секцыі?**

– На мой погляд, для ўмацавання імунітэту падыдуць усе віды вулічнага спорту – лёгкая атлетыка, футбол, валейбол, баскетбол, лыжы.

Безумоўна, карысныя велапрагулкі, катанне на роліках і каньках. У гэтым выпадку важна не забываць аб шлеме і ахоўнай экіпіроўцы, каб пазбегнуць траўмаў.

### «Пачырваненне ў месцы ін'екцыі – нармальны працэс»

**– Ці расце колькасць бацькоў, якія адмаўляюцца ад прышчэпак?**

– На маім участку не расце колькасць тых, хто адмаўляецца ад абавязковых прышчэпак па календары, наадварот, тыя, хто першапачаткова адмовіўся, потым прыходзяць і прышчапляюцца. Тут галоўнае, каб бацькі вытрымлівалі аптымальныя тэрміны прышчэпак.

**– Нейкая частка антыпрышчэпачнікаў тлумачыць сваю пазіцыю тым, што баяцца за наступствы пасля прышчэпак. Як можна знізіць рызыкі пабочных дзеянняў вакцын?**

– Баяцца прышчэпак не трэба, варта баяцца тых наступстваў, якія могуць узнікнуць з-за таго, што іх не зрабілі.

А так, дзіця прыходзіць здаровым, я ведаю яго анамнез жыцця, ведаю неўралагічны статус. Перад прышчэпкай аглядаю. Калі мне нешта не падабаецца, адпраўлю на аналізы, калі дзіця – алергік, то за чатыры дні да прышчэпкі і пару дзён пасля прышчэпкі прапаную бацькам падаваць яму супрацьалергенныя лекі.

Такіх рэакцый на прышчэпку, як пачырваненне ў месцы ін'екцыі альбо павышэнне тэмпературы, таксама баяцца не трэба. Гэта нармальны працэс.

### «Дзеці ва ўзросце пяці гадоў і меншыя не павінны насіць маскі»

**– Як дзеці і падлеткі пераносяць каронавірус?**

– Каронавірус дзеці пераносяць, як і любую іншую вірусную інфекцыю. Некаторыя бессімптомна, у некаторых ёсць тэмпература ці расстройства страўнікава-кішачнага тракта. Але ў асноўным усе дзеці пераносяць захворванне ў лёгкай форме, хоць ёсць выпадкі і пнеўманій.

**– Калі дзіця перахварэла на каронавірус, якая рэабілітацыя пасля гэтага неабходная?**

– Больш часу знаходзіцца на свежым паветры, выконваць умераныя фізічныя нагрузкі, прапіць вітаміны.

**– Неадназначнае меркаванне, наколькі дзецям неабходна насіць маскі. Хтосьці кажа, што не трэба, хтосьці, што трэба. А як правільна?**

– Згодна з рэкамендацыямі СААЗ, дзеці ва ўзросце пяці гадоў і меншыя не павінны насіць маскі. Нашэнне масак дзецьмі ва ўзросце ад 6 да 11 гадоў залежыць ад некаторых фактараў. Напрыклад, ці здольнае дзіця бяспечна і правільна карыстацца маскай, ці мае зносіны з людзьмі, у якіх захворванне можа працякаць у цяжкай форме. Дзецям ва ўзросце ад 12 гадоў і старэйшым варта карыстацца маскамі, асабліва, калі дзіця знаходзіцца ў шматлюдным месцы, дзе не атрымліваецца выконваць сацыяльную дыстанцыю, або ў месцах, дзе высокая рызыка заражэння.

Здаровыя дзеці могуць насіць тканінавыя маскі. Дзецям з паніжаным імунітэтам, хворым на рак, з хранічнымі захворваннямі рэкамендуецца насіць медыцынскія маскі.

**Алена САДОЎСКАЯ,**
**«Вячэрні Бабруйск».**



**Педыятр Бабруйскай гарадской дзіцячай паліклінікі №4 Ганна Ткач.**

Рэгіянальная газета. Rh.by

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

Дзе падаць аб'яву

МАЛАДЗЕЧНА — Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ — вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ — вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН — вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА — вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.**
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ — вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.**
СМАРГОНЬ — вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.**




## ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА**

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

**КУПЛЮ**

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*



## НЕРУХОМАСЦЬ

**ПРАДАЕЦЦА**

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына. Тэрмінова! Т. (8-01771) 27765, (8-029) 2907517.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-029) 2982204.*

• Гараж у Маладзечне ў ГК-32 (Фестывальны). Плошча 6 х 4 м, вышыня дзвярэй 2,48 м, вышыня ад падлогі да столі 2,74 м, у падвале пакладзеная сцяжка з гідраізаляцыяй. Гараж электрыфікаваны. Прапанову з Вашай магчымай цаной і нумарам тэлефона адпраўляйце праз SMS на (8-029) 8550550. Калі мне спадабаецца Ваша цана, то я Вам перателефаную.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

**ЗДАМ**

• 2-пакаёвую кватэру ў Маладзечне па вул. Хмяльніцкага, д.6, насупраць базару. Т. (8-029) 7052670.*

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

• У арэнду памяшканне магазіна плошчай 370 кв.м ў Маладзечне па вул. Святаянскай, 75, альбо прадам. ІП Заянчкоўскі І.С. УНП 691890017. Т. (8-029) 6278076.*



## ПАСЛУГІ

**ДЛЯ МАЛАДЫХ**

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

• Музыка. Відэа. Фота. Т. (8-029) 8578378.*

**ІНШЫЯ ПАСЛУГІ**

• Абітурыентам і школьнікам! Рэпетытар па хіміі і біялогіі. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Вароты адкатныя і двухстворкавыя. Агароджы. Навесы. Казыркі і іншыя вырабы з металу з коўкай ці без. Растэрміноўка. ІП Дрозд. УНП 692024743. Т. (8-029) 7611311, (8-044) 7145208.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах: мантаж новага, дэмантаж, рамонт. Аддзелка сайдынгам і ўцяпленне фасадаў: пенапласт, вата, дэкаратыўка. ІП Бялугін А.Д. УНП 692252180. Т. (8-029) 2641389 МТС, (8-029) 1641389 А1.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюр Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*



• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт тэлевізараў і антэн. Вілейка і Вілейскі раён. ІП Петрашэвіч А.В. УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165 (вайбер).*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Устаноўка помнікаў. Мантаж. Дэмантаж. Укладка пліткі. Растэрміноўка. ІП Сідаровіч А.І. УНП 691187210. Т. (8-044) 7203521.*

## РОЗНАЕ

**ПРАДАЕЦЦА**

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Арганізацыя прадае фрызы і дэкоры, бардзюрныя ўстаўкі старых калекцый плiткі «Керамін» ад 20 капеек за штуку. Вялікі асартымент. Складскія рэшткі ў Маладзечне. Запрашаем дызайнераў і будаўнікоў для рэалізацыі смелых арыгінальных рашэнняў. Крама «Сантэхніка плюс», г. Маладзечна, Чкалава, 4 (каля гарадскога стадыёна). ІП Качаткоў В.Б. УНП 690295509. Тэл. для даведак: (8-029)6423464.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Індычаняты бройлерныя БІГ6. Т. (8-033) 6908397 МТС, (8-029) 6938397.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двайні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена. Маладзечанскі раён. Т. А1 (8-029) 6870898.*

**КУПЛЮ**

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, кроквы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

**ПАТРАБУЕЦЦА**

• Арганізацыі патрабуецца слесар і вадзіцель-міжнароднік катэгорыі «Е». Т. (8-029) 3436989.

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіля. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**ШУКАЮ РАБОТУ**

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

# Электрычныя інструменты. Некаторыя моманты ў карыстанні

**Электрычныя інструменты больш звыклыя ў выкарыстанні.**



Фота pimtv.ru.

Мінусы – патрабуецца электрычная сетка, абмежаванні ў працы ў дождж. У адрозненне ад бензаінструмента электрарухавікі баяцца вады.

Абмежаванне правадамі і патрабаванне іх наяўнасці, і трэба пастаянна за сабой іх цягаць.

Як следства – небяспека паражэння электрычным токам. Неабходна быць пастаянна ўважлівым да правадоў, бо будаўнічыя і садовыя прылады маюць рэжучыя элементы: нажы, ланцугі, дыскі, якія так і наровяць дарвацца да электрычнага проваду.

З пераваг: проста абслугоўваць і карыстацца – уторкнуў у разетку, націснуў на кнопку. І ўсё ж...

За чым трэба сачыць і на што звяртаць увагу?

Вядома, пажадана пачытаць інструкцыю прыбора. Але хто ж яе чытае?

Звярніце ўвагу, што ў некаторых пашпартах-інструкцыях вытворцы пішуць у першых сказах: інструмент не прызначаецца для карыстання дзецьмі і людзьмі з разумовай і фізічнай адсталасцю.

Часта на нейкія даволі дзіўныя і спецыфічныя пытанні я дастаю з кішэні смартфон і з сарказмам адказваю: вось тут ёсць юцюб, які на ўсё не толькі ведае адказ, але і пакажа кіно. Бо ствараецца ўражанне, што людзі па смартфоне глядзяць толькі забаўляльныя ролікі.

Інструмент звычайна дзеліцца на аматарскі і прафесійны. І гэта адносіцца не толькі да электрычнага інструмента і абсталявання, але і да бенза-, і акумулятарнага. Галоўнае ў выкарыстанні бытавога аматарскага інструмента – абмежаванне працы па часе. Папрацаваў 10-30 хвілін, – адпачыў сам, даў адпачыць інструменту. Калі электрарухавік перагрэўся, аж дыміцца, то што вы ад яго хочаце?

Я на спрэчку магу спаліць любы бытавы электраінструмент за хвіліну. Дам яму вялікую нагрузку. Новая балгарка фірмы «Молат» загарэлася ў руках праз 30 секунд. Падобная балгарка «Бош» з такімі ж параметрамі і нагрузкай паспявала награвацца, а гэта проста адразу згарэла.

**Таму моцна фізічныя намаганні не прыкладайце, адчувайце перагрэў і адпачывайце. Гэта самая галоўная ўмова эксплуатацыі.**




Шчоткі, падшыпнікі. Тут кожны гаспадар прымае сваё рашэнне. Вядома, пажадана і глядзець, і аддаваць на прафілактыку, і сачыць.

Але яшчэ прасцей – карыстацца нармальным пракатам інструмента, які знаходзіцца ў горадзе Маладзечна па вуліцы Чкалава, 4, каля стадыёна, у краме «Сантэхніка-плюс».

Там сочаць і за шчоткамі, і за падшыпнікамі, і за чысцінёй інструмента, і за змазкай рэдуктараў і іншых дэталяў.

З вамі быў Кофф Баевіч. І хай праца вам будзе ў радасць, а інструменты ў дапамогу.



**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёна:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591 |
| **Ашмяны** | -01593 |
| **Валожын** | -01772 |
| **Вілейка** | -01771 |
| **Маладзечна** | -0176 |
| **Мядзел** | -01797 |
| **Смаргонь** | -01592 |

# Дзе вакцынавацца ад каронавіруса ў рэгіёне

**У Беларусі працягваецца кампанія па вакцынацыі насельніцтва ад каронавіруснай інфекцыі. «Рэгіянальная газета» расказвае, дзе ў рэгіёне можна прышчапіцца.**



У рэгіёне прышчапляюць расійскай і кітайскай вакцынамі.

### Маладзечаншчына

На тэрыторыі Маладзечанскага раёна вакцынацыя супраць каронавіруснай інфекцыі арганізаваная на базах паліклінік №1, 2, 3 у Маладзечне. У сельскай мясцовасці прышчапіцца можна ў бальніцах Радашкавічаў, Чысці, Беразінскім, амбулаторыях у Красным, Лебедзеве і Алёхнавічах.

На Маладзечаншчыне выкарыстоўваюць вакцыны «Гам-Кавід-Вак» (Расія) і Vero Cell (Кітай). У Маладзечанскім раёне на прышчэпку можна прыйсці без папярэдняга запісу.

### Валожыншчына

У Валожынскім раёне вакцынацыю супраць COVID-19 праводзяць вакцынай «Гам-Кавід-Вак». Вакцынацыю праводзяць на базе раённай паліклінікі горада Валожына.

Для запісу на вакцынацыю можна звярнуцца па нумарах:

**55733** – для жыхароў Валожына і прыпісных участкаў;

**53525** – для жыхароў Івянца і прыпісных вёсак;

**52237, 52826** – для жыхароў Ракава і прыпісных вёсак;

**33237** – для жыхароў зоны абслугоўвання Гародзькаўскай амбулаторыі;

**44532** – для жыхароў зоны абслугоўвання Вішнеўскай амбулаторыі;

**46252** – для жыхароў зоны абслугоўвання Пяршайскай амбулаторыі;

**45437** – для жыхароў зоны абслугоўвання Багданаўскай амбулаторыі;

**35367** – для жыхароў зоны абслугоўвання Падбярэзскай амбулаторыі.

### Смаргоншчына

У Смаргоні прышчапляюць расійскай і кітайскай вакцынамі. Запісацца ў горадзе на прышчэпку можна па тэлефонах **48429** і **37404**. Вакцынацыю праводзяць у бальніцах у мікрараёнах Усходні і Карані.

### Ашмяншчына

Вакцынацыя на тэрыторыі Амшмянскага раёна праводзіцца на базе раённай паліклінікі, Гальшанскай і Мураванаашмянскай амбулаторый. Прышчапляюць вакцынай «Гам-Кавід-Вак». Запісацца на вакцынацыю можна па нумарах: **77253, 77060**.

### Мядзельшчына

Вакцынацыя ў Мядзельскім раёне праходзіць на базе Мядзельскай паліклінікі. Папярэдне запісацца для вакцынацыі супраць каронавіруснай інфекцыі можна па тэлефоне **24389**. У Мядзельскім раёне працуе дадатковы пункт вакцынацыі ад 12 ліпеня. Ён знаходзіцца ў Мядзеле каля крамы «Еўраопт» па вуліцы Юбілейнай. У будні працуе ад 11:00 да 19:00, па суботах – ад 9:00 да 15:00, нядзеля – выхадны.

### Вілейшчына

Вілейская ЦРБ запрашае прышчапіцца ўсіх жыхароў Вілейкі і Вілейскага раёна. Ахвотныя могуць прышчапіцца ў паліклініцы, для гэтага без чаргі можна звярнуцца ў рэгістратуру (акно 4). Прышчапляюць ад панядзелка да суботы, нядзеля – выхадны. У панядзелак-пятніцу – ад 8:00 да 17:30, а ў суботу – ад 8:00 да 14:30.

На Вілейшчыне прышчапляюць вакцынай «Гам-Кавід-Вак».

### Астравеччына

У Астравецкім раёне вакцынуюць расійскім «Гам-Кавід-Вак». Па пытаннях вакцынацыі можна звярнуцца па тэлефоне **24154** ці да доктара агульнай практыкі.

### Даведка

Запісацца на вакцынацыю можна праз электронныя формы на сайтах цэнтральных раённых бальніц. Вакцынацыя праводзіцца сярод паўнагадовых. Асаблівую ўвагу дактары звяртаюць на вакцынацыю людзей ва ўзросце 61 год і старэйшых з хранічнымі захворваннямі і асоб, якія маюць рызыку цяжкай плыні захворвання. Вакцынацыя праводзіцца двойчы: спачатку прышчапляюць першым камплектам вакцыны, праз 21 дзень – другім.


Тэкст і фота – Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Дайджэст. Арышты і перагрусы ў журналістаў, пратэсты на Кубе і міграцыйны крызіс

**«Рэгіянальная газета» расказвае пра галоўныя падзеі, што адбыліся за апошні тыдзень у краіне і свеце.**

### Літва называе нелегальную міграцыю праз Беларусь гібрыдной агрэсіяй

Парламент Літвы прыняў рэзалюцыю, якая прызнае нелегальную міграцыю праз Беларусь гібрыднай агрэсіяй. Рэзалюцыя прапануе шэраг захадаў. Назначаецца, што іншаземцаў з трэціх краін, якія нелегальна перасякаюць мяжу Літвы і не маюць дакументаў, трактаваць як верагодных актыўных удзельнікаў гібрыднай атакі. Арганізатараў патокаў нелегальнай міграцыі плануюць уключыць у нацыянальныя спісы санкцый і еўрапейскія.

Сёлета колькасць нелегальных мігрантаў праз літоўска-беларускую мяжу перасягнула 1600 чалавек. Гэта ў 22 разы больш, чым летась.

**Паводле Еўрарадыё.**

### Сайт «Нашай нівы» заблакаваны, чацвёра супрацоўнікаў пад арыштам

Ад 8 ліпеня сілавыя органы па ўсёй Беларусі праводзілі ператрусы ў шэрагу рэдакцый і ў кватэрах журналістаў.

Улады таксама заблакавалі сайт «Нашай нівы», у рэдакцыі і ў журналістаў выдання адбыліся ператрусы. Супраць чатырох супрацоўнікаў вядуцца следчыя дзеянні – рэдактара сайта **Ягора Марціновіча**, кіраўніка аддзела рэкламы і маркетынгу **Андрэя Скурко**, рэдактара часопіса «Наша гісторыя» і дзіцячых «Дуду» і «Асцярожна: дзеці!» **Андрэя Дынько**, а таксама галоўнага бухгалтара **Вольгі Раковіч**. Усе яны праходзяць падазраванымі па артыкуле 342 «Арганізацыя ці ўдзел у дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак». На працягу 10 дзён, да 19 ліпеня, ім павінны выставіць абвінавачанні альбо адпусціць.

Тэлеграм-канал «Нашай нівы» паведаміў, што Марціновіча сілавікі білі пры затрыманні, ад чаго ён атрымаў траўму галавы. Да яго ў Следчы камітэт прыязджала «хуткая дапамога».

Ператрусы адбыліся ў рэдакцыі «Брэсцкай газеты», Orsha.eu, баранавіцкага выдання Intex-Press, «Медыя Палесся», bobr.by, «Ганцавіцкага часу», «Першага рэгіёна», у лунінецкай «Інформ-прагулцы», брэсцкіх «Моцных навінах». Ператрусы ў выданнях звязаныя з крымінальнымі справамі за мінулагоднія пратэсты.

**Аддзел інфармацыі.**

### КГБ: У Беларусі праходзіць аперацыя «па зачыстцы ад радыкальна настроеных асоб»

Пра гэта заявіў намеснік начальніка следчага ўпраўлення КГБ **Канстанцін Бычок**.

– Падчас правядзення аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў і следчых дзеянняў асобы ўдзельнікаў двух тэлеграм-каналаў устаноўленыя. У цяперашні час ажыццяўляецца шырокамаштабная аперацыя па зачыстцы ад радыкальна настроеных асоб.

**Паводле БелТА.**

### Туркменістан накіраваў войскі на мяжу з Афганістанам

Улады Туркменістана прывялі ў павышаную гатоўнасць сілы рэзервістаў у Ашхабадзе. Гэта стала чарговай рэакцыяй на ваенна-палітычнае становішча ў суседнім Афганістане.

**Паводле svaboda.org.**

### На Кубе праходзяць антыўрадавыя пратэсты

У Гаване, сталіцы Кубы, і шэрагу іншых гарадоў вострава адбываюцца акцыі пратэсту супраць урада.

Удзельнікі акцый патрабуюць свабоды, дэмакратыі і больш рашучых захадаў уладаў у барацьбе з каронавірусам. Сярод лозунгаў – «Далоў дыктатуру» і «Мы не баімся».

Прэзідэнт Мігель Дыяс-Канэль абвінаваціў ЗША і «кубінска-амерыканскую мафію» ў пагаршэнні абстаноўкі ў краіне.

**Паводле bbc.com.**

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |


Фота «Вясны».

Дзяніс Сырэц.



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Іван Вярбіцкі.

# Маладзечанца і гальшанца прызналі палітвязнямі

**Двух мужчын з нашага рэгіёна прызналі палітзняволенымі. Гэта маладзечанец Дзяніс Сырэц і гальшанец Іван Вярбіцкі.**

Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі **Дзяніса Сырца** і **Івана Вярбіцкага** палітычнымі вязнямі.

### Абразы і распальванне варожасці

Дзяніса Сырца затрымалі 18 сакавіка. Яго абвінавачвалі па трох крымінальных артыкулах: за распальванне варожасці ў дачыненні да міліцыянераў, за абразу двух маладзечанскіх міліцыянераў і супрацоўніцы гродзенскага АМАПа, **Аляксандра Лукашэнкі**, **Лідзіі Ярмошынай**, **Мікалая Карпянкова**. Згодна з абвінавачаннямі, у верасні-кастрычніку 2020 года Сырэц пакінуў каментары ў мясцовым тэлеграм-чаце, у якіх пасля следства знайшло склад злачынства.

11 чэрвеня маладзечанцу прысудзілі чатыры гады калоніі агульнага рэжыму. Сырэц павінны выплаціць двум маладзечанскім міліцыянерам і супрацоўніцы АМАПа УУС Гродзенскага аблвыканкама па тысячы рублёў кампенсацыі маральнай шкоды. Ён не адпраўлены ў калонію для адбыцця пакарання, знаходзіцца ў СІЗА-1 на Валадарскага.

### Падбухторванне да акта тэрарызму

Суд Смаргонскага раёна вынес прысуд Івану Вярбіцкаму яшчэ 15 сакавіка, аднак напрыканцы чэрвеня адбылося абскарджанне. Яно не прынесла станоўчага выніку для асуджанага гальшанца. Івана Вярбіцкага асудзілі на 8 год і 1 месяц за падбухторванне да акту тэрарызму і знішчэнне афіцыйных дакументаў.

**Мужчына пакінуў некалькі каментароў у мясцовых тэлеграм-каналах, у якіх нібыта заклікаў да падпалу ашмянскай пракуратуры і падпалу аўтамабіляў астравецкіх міліцыянераў.**

Падчас суда Вярбіцкі сказаў, што гэтымі паведамленнямі «троліў сілавікоў». А перад ператрусам гальшанец разарваў пастанову абператрусе.

Усяго ў Беларусі 555 палітычных вязняў.

**Настасся УТКІНА.**

## АМАП затрымаў мужчыну, якога падазраюць у замаху ўзарваць расійскі вузел сувязі пад Вілейкай

**На мінулым тыдні Аляксандр Лукашэнка заявіў пра шэраг тэрактаў, якія прадухілілі беларускія сілавікі: замах на журналіста СТБ Азаронка, дыверсію ў лясгасе і выбух на расійскім ваенным вузле сувязі пад Вілейкай.**

«Наша Ніва» сабрала інфармацыю пра аднаго з затрыманых. Менавіта яго паказвалі як чалавека, што меў намер узарваць вузел сувязі.

**Аляксею Глотаву** 43 гады, ён жыве ў аграгарадку Камунар Буда-Кашалёўскага раёна (Гомельская вобласць).

Быў жанаты, у шлюбе нарадзілася двое хлопцаў, але з жонкай Аляксей даўно развёўся.

> **– Ён калісьці працаваў будаўніком на бройлернай птушкафабрыцы, пасля працаваў на сябе: выrabляў і збіраў корпусную мэблю, – расказваюць пра Глотава знаёмыя.**

У аграгарадку пра затрыманне чулі, але без падрабязнасцяў: «Кажуць, нейкі тэракт у Мінску планаваў».

«Наша Ніва» звязалася з мамай Аляксея, але жанчына не захацела размаўляць. «Яго затрымалі, калі ехаў на працу. Больш нічога не ведаю», – сказала яна.

Улетку 2020 года Аляксей размяшчаў у сваіх сацыяльных сетках у інтэрнэце паведамленні тэлеграм-каналаў, радаваўся рэгістрацыі Святланы Ціханоўскай кандыдатам у прэзідэнты. Апошнім часам у сацсетках паведамленняў палітычнага ці сацыяльнага парадку дня ўжо не было.

«Наша Ніва» адшукала і былую жонку Аляксея, але тая адмовілася ад размовы:

– Нам няма пра што з вамі гаварыць, мы з ім разам даўно не жывём, – сказала яна.

Аляксея Глотава затрымалі 30 чэрвеня, пры сабе ён нібыта меў пісталет.

**«Наша Ніва».**

## Маладзечанкам, якіх затрымалі ля помніка пакутнікам, далі штрафы агулам на 230 базавых велічынь



Затрыманне 20 чэрвеня.

**Дзіяне Дашчынскай** і **Алёне Лемяшэвіч** прысудзілі на абедзвюх 230 базавых велічынь за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве 20 чэрвеня ля помніка пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі.

Дашчынскай прысудзілі 150 базавых велічынь (4350 рублёў), а Лемяшэвіч – 80 базавых (2320 рублёў).

Нагадаем, 20 чэрвеня затрымалі чацвярых за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве, журналістаў «Рэгіянальнай газеты» таксама даставілі ў аддзяленне міліцыі.

**Пятру Дыко** далі 15 сутак адміністрацыйнага арышту, а **Жанне Пілючонак** – 25 сутак за паўторнае парушэнне адміністрацыйнага артыкула. Пілючонак затрымлівалі па «справе лыжнікаў» зімой.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

# Магія беларускай выцінанкі: і ахоўвала пячатку ВКЛ

## Запрашаюць у музей выцінанкі ў Лоску

**Мастачка з Маладзечна Вольга зрабіла з вясковага дома сядзібу «Palunisa» і зладзіла там музей выцінанкі. Як заўважае гаспадыня, першы і адзіны ў Беларусі. Ахвотныя могуць наведаць яго ў Лоску Валожынскага раёна.**



Вольга Бабурына расказвае пра музей выцінанкі, які зладзіла ў фальварку на Валожыншчыне.

Фота Настассі УТКІНАЙ.

Мы распыталіся творцу, што ў гэтым музеі можна рабіць і чым ён здзівіць наведнікаў.

### Хто такая Вольга

Сваякі Вольгі па маці – з Мядзельшчыны, бацькі – з Вілейшчыны, а сама нарадзілася ў Маладзечне. Але калі прыехала ў Лоск упершыню, то жанчыну вельмі ўразілі краявіды, такую прыгажосць нячаста ўбачыш. Жанчына набыла тут летась дом. Восенню памяняла вокны і шыфер на частцы даху.

Праз нейкі час зразумела, што хоча зрабіць з гэтага месца музей выцінанкі. Але каб гэта быў не такі музей, па якім ходзіш і баішся дыхаць, а каб тут бруіла жыццё. Каб можна было абмяркоўваць экспанаты, збірацца на імпрэзы і вучыцца майстраваць нажніцамі самастойна.

Вольга – прафесійная мастачка. Вучылася ў **Вікторыі Чырвонцавай**, калі зорка беларускай выцінанкі вяла клас народнага мастацтва пры гарвыканкаме. Пасля паступіла ў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Па першай адукацыі Вольга рэстаўратар, а другая вышэйшая – «Выяўленчае мастацтва. Чарчэнне. Сусветная айчынная культура».

### Як стваралі музей

Музей пакуль гатовы часткова. Вольга жыве тут пастаянна, таму музей адначасова з'яўляецца яе домам. Цяпер уладкавалі частку будынка, усё добраўпарадкаванне зрабілі за тры апошнія месяцы. Праца над сядзібай працягваецца – трэба давесці да ладу дах, добраўпарадкаваць пакоі, да якіх яшчэ не дайшоў рамонт.

– Спадзяюся, у гэтым годзе да мяне прыедзе многа турыстаў і назбіраецца шмат грошай, каб адрамантаваць астатняе, – кажа Вольга.

Гаспадыня дадае, што цяпер яе сядзіба – адзіны музей выцінанкі на Беларусі:

– Дакладна ведаю, што ёсць музей папяровага выразання ў Пітсбургу, ЗША. Там ёсць гільдыя выразальшчыкаў з паперы – я сябра гэтай гільдыі, таму ведаю. У Даніі ёсць музей, дзе захоўваюцца выразкі Ганса Хрысціяна Андэрсена. Ці ведалі вы, што ён выразаў? Наколькі ведаю, ёсць і ва Украіне. А ў Беларусі ёсць калекцыі выцінанак у некаторых музеях, у Маладзечанскім музкаледжы ёсць выдатны збор. Але музея, які быў бы цалкам прысвечаны выцінанцы, дагэтуль не было.

### Выцінанкі робяць па ўсім свеце

Частка экспазіцыі музея – выцінанкі Вольгі. Ёсць самая першая выцінанка, якую ўспрыняла як мастацкі твор, 1995 года.

Адна з апошніх прац вызначаецца формай – «Смарагдавыя ваўчыцы». Гэта працяг экалагічнай тэндэнцыі ў працах мастачкі, калі яна бярэ матэрыял, які мог бы апынуцца на сметніцы, і робіць з яго твор мастацтва. У гэтым выпадку базай стаў пластыкавы манекен, які выкідалі. Мастачка абляпіла яго пап'е-машэ і зверху наклеіла выцінанку, пакрыла лакам – вось адметны мастацкі твор.

**Адзін з блокаў экспазіцыі – выцінаныя аклады, ці традыцыйнае аздабленне абразоў.**

– 35 год займаюся выцінанкай і толькі нядаўна даведалася, што ў маёй маці быў абавязак – упрыгожваць абразы да свята, – расказвае гаспадыня. – Упрыгожвала папяровымі кветачкамі і выцінанкай. Часам этнаграфічныя факты ўспліваюць нечакана. Апошнія гады ўспліваюць такія звесткі пра выцінанку, якія робяць неактуальнымі навуковыя даследаванні яшчэ пяцігадовай даўнасці.

Частка выставы прысвечаная выцінанкам беларускіх мастакоў. Напрыклад, творы **Станіслава Муліцы** ўяўляюць сабой традыцыйную заходнебеларускую выцінанку.

Ёсць працы **Ніны Шурак** – яна адрадзіла мастацтва выбіванкі, якое памятала з дзяцінства. У музеі размешчаная адна з яе апошніх прац. Вучаніца мастачкі **Наталля Клімко** выраблае выцінанку завостранай адвёрткай – складваеш паперу, малюеш малюнак, а пасля выбіваеш. З паперы адпаведнага памеру такім чынам выраблялі фіранкі.

З аднаго мясцовага дома засталіся ліштвы, Вольга збіраецца з іх зрабіць такі твор – вокны, аздобленыя папяровымі фіранкамі. Мясцовыя ліштвы звычайна гладкія і лаканічныя, толькі знізу або зверху невялічкі ўзор. Гэта дэталь экстэр'еру таксама адметная для рознай мясцовасці і па стылі дарэчы выцінанцы.

Колеравыя рашэнні беларускіх выцінанак розныя ў залежнасці ад месца знаходжання аўтара. Некаторыя аўтары робяць выцінанкі з газеты. Напрыклад, **Наталля Адзінец** з Любаншчыны выразала з газеты і расфарбоўвала край. На адной з газетных выцінанак – імітацыі ручніка, узоры не выразаныя, а прабітыя гільзамі ад куляў.

Фіранкі на вокны рабілі не толькі з паперы. Калі была магчымасць – то і з тонкай тканіны. Каб край тканіны не сыпаўся, яго зафарбоўвалі, і фарба трымала ніткі, каб не сыпаліся. Такое рашэнне спадабалася, і сталі гэтак жа рабіць на паперы.

Чаму сустракаюцца выцінанкі з газетнай паперы, пытаемся ў мастачкі.

– Шмат традыцыйнага вынікае з абмежаваных умоў. Менавіта абмежаванне ўмоў выклікае развіццё. Калі я як мастак абмяжоўваю сябе ў тым, што выкарыстоўваю толькі нажніцы і паперу, гэта абумовіць спецыфіку стылізацыі. Тое, што можна выразаць нажом, нажніцамі, выразаецца па-іншаму, і ствараецца нешта іншае. Каб выразаць нажніцамі, трэба шмат разоў скласці паперу. Шматразовае складванне характэрнае для беларускіх выцінанак.

На Беларусі была як манахромная выцінанка, так і паліхромная. З матэрыялаў ужывалі паперу, тканіну, фольгу.

– У нас такая багатая культура, проста неверагодна! – зазначае Вольга. – З-за пандэміі падарожнічаць па свеце не атрымліваецца, таму людзі даследуюць не ўшыр, а ўглыб. Падымаецца шмат формаў, у тым ліку традыцыйнага мастацтва.

**У музеі ёсць драўляны гадзіннік Андрэя Мартынюка, стылізаваны пад выцінанку. А таксама бібліятэка – кнігі на тэму папяровага выразання, якія змагла адшукаць гаспадыня.**

У блоку замежнай выцінанкі можна параўнаць стылі, колеры і тэмы твораў аўтараў розных краін. Украінская больш падобная на аплікацыю з розных элементаў. Ёсць твор польскай аўрэйкі, кітайскія, рускія працы. Можна па творы паспрабаваць адгадаць краіну, з якой паходзіць аўтар.

– Літоўская выцінанка – з асаблівай лаканічнай эстэтыкай, далікатныя колеры, дасканалая кампазіцыя, – расказвае Вольга. – Яны мне асабліва падабаюцца.

# каб лячыла ад хваробаў





Фота Настассі УТКІНАЙ.








Экспанаты музея выцінанкі ў Лоску Валожынскага раёна.

## Што вы не ведалі пра выцінанку

Аказваецца, з паперы выразалі амаль па ўсім свеце, але ў кожнай мясцовасці свае адметнасці.

– На Беларусі характэрнае шматразовае складванне, адсюль сіметрыя – люстраная, рапортная, цыклічная. Раней лічылася, што беларуская выцінанка манахромная. Але цяпер зразумела, што часта яна была паліхромная. Заўважаная пэўная стылізацыя.

**Я характарызавала б яе не знешне, а па глыбіні. Наша выцінанка каранямі ідзе глыбока ў традыцыі.**

У 70-80 выцінанка ледзь не знікла, заўважае Вольга:

– Былі адзінкавыя мастакі, якія ёй займаліся. Маладзечна – сталіца беларускай выцінанкі. Дзякуючы маладзечанскай школе, **Вікторыі Чырвонцавай** і **Юрыю Герасіменку-Жызнеўскаму** і той базе, якую яны ўклалі, выцінанка пачала развівацца.

**Зрабілі ўпор на моцны кантакт з традыцыяй. Можна дрэва зрэзаць і ўтыркнуць у зямлю – яно не прарасце. Калі ж у дрэва моцныя карані, то яно будзе развівацца і расці.**

У беларускай выцінанцы захавалі карані – глыбокія кантакты з традыцыяй. Калі мастацтва адраджалі, шмат увагі надавалі вывучэнню і даследаванню спадчыны.

**Менавіта якасцю беларуская выцінанка зачароўвае і прыцягвае. Таму нярэдкія прыклады, калі беларускую выцінанку капіравалі замежнікі.**

Што тычыцца колераў, то тут асаблівыя перавагі заўважыць няпроста:

– Для беларускай выцінанкі характэрныя колеры жыцця, – лічыць мастачка. – Выразалі з паперы, якая магла быць белая, шэрая, з газеты і падфарбоўвалі самымі рознымі колерамі. Вось у кітайскай характэрная чырвоная выразка на белым фоне. У заходняй Беларусі нярэдка рабілі чорныя выцінанкі. Але выбраць некалькі абраных колераў нельга.

## Магія выцінанкі

Мастак Станіслаў Муліца апублікаваў артыкул, дзе рабіў рэканструкцыю выцінаных карункаў, якімі аздаблялі труну. Ён памятае з дзяцінства такія пахаванні, іх яшчэ зафіксавалі на фотаздымках – тады фатаграфаваць пахаванні было модна. Яшчэ пасля разглядалі фотаздымкі – хто прыязджаў на пахаванне, хто з прысутных ужо памёр. Муліца прыгадваў, што заўжды разглядаў, якія ўзоры выкарыстоўвалі для ўпрыгажэння труны, як разглядаў іх дзіцем.

**– Выцінанку выкарыстоўвалі не толькі для аздаблення жылля – у якасці фіранак або сурвэтак.**

У гэтым мастацтве закладзеная і сакральная функцыя – імі ўпрыгожвалі абразы, труну. Жанчына з суседняй вёскі расказала, што яе сваячка ўпрыгожвала выцінанкай прыдарожныя крыжы. Такі догляд культавых рэчаў – гэта ўвага да боскай часцінкі ў сабе.

Здавалася б, выразалі разеткі з пэўным узорам – але не так усё проста.

– Адзін узор выкарыстоўвалі над люлькай, каб дзіця добра спала, іншы, каб выздаравеў чалавек. Калі ісці глыбей, то адны з першых прыкладаў выразання з паперы на Беларусі мелі ахоўную функцыю. Напрыклад, адмыслова выразаны ўзор клалі пад пячатку. Бывалі маленькія, пяць на шэсць сантыметраў, а бывалі вялікія, напрыклад, 18 на 20. Такія прыклады дакладна былі, але ці засталіся ў музеях Беларусі, не ведаю.

## Як стаць наведнікам

Музей выцінанкі «Палуніца» – гэта аграсядзіба. Музей будзе развівацца далей, цяпер яго наведванне бясплатнае.

Сёлета Вольга робіць першы папер-пленэр. Плануе праводзіць мерапрыемствы, майстар-класы. Напрыклад, у кастрычніку – тэатральныя варштаты.

**У верасні плануецца ўрачыстае адкрыццё.**

– Хачу, каб гэта быў жывы музей, падкрэслівае гаспадыня. – Каб наведаць, трэба скантактавацца са мной, каб я тут была.

Скантактавацца з Вольгай можна па нумары (8-033) 300-89-09.



Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# 20 ліпеня адзначаецца Міжнародны дзень шахмат

**Напэўна, усе чулі пра шахматы. Гэта такая настольная, а цяпер і онлайн гульня. Шмат хто ведае, што шахматы развіваюць логіку, канцэнтрацыю, уседлівасць. Віталь Качаткоў раскажа пра дзіўныя і займальныя шахматы.**

Шахматы вядомыя свету каля 1500 гадоў. Навукоўцы даказалі, што шахматы ў любым узросце могуць значна паўплываць на чалавека.

### Паляпшаюць памяць

Дасведчаныя шахматысты могуць усю партыю гуляць з заплюшчанымі вачыма. Хады прадумваюцца ў галаве. Шахматыст перабірае розныя варыянты і ўяўляе, куды яны могуць прывесці. Гэтыя дзеянні развіваюць прасторавае мысленне, мысленне «малюначкамі».

### Дапамагаюць дасягнуць пастаўленых мэт

Гульцы аналізуюць сітуацыю і складаюць план дзеянняў на дошцы, які прыводзіць да перамогі. Гэтыя навыкі на аўтамаце «пераваньдроўваюць» у рэальнае жыццё.

### Загартоўваюць характар

Барацьба ў шахматах развівае эмацыянальную ўстойлівасць, цвёрдую волю, рашучасць, жаданне перамагаць і імкненне да перамогі. Прайграць не страшна. Гэта ўсяго толькі прыступка на шляху да новых перамог – такая філасофія ў шахматыстаў.

### Вучаць мець зносіны

Доктар Альберт Франк правёў даследаванне. Ён назіраў за дзецьмі, якія дзве гадзіны ў тыдзень гулялі ў шахматы. Вынікі паказалі, што ў іх значна палепшыліся навыкі зносін. Як, бо гульня не звязаная з мовай? Шахматы задзейнічаюць участкі мозга, якія адказваюць за мову і логіку. Ціхія дзеці ператвараюцца ва ўпэўненых і таварыскіх.

### Развіваюць творчае мысленне

Многія шахматысты адчуваюць прыліў натхнення. З чым гэта звязана? Гульня задзейнічае адразу два паўшар'і галаўнога мозга. Адно з якіх, як вядома, адказвае за ўяўленне і творчасць.

Паводле даследаванняў, поспех чалавека не толькі ў прафесіі, але і ў жыцці на 85% залежыць



Фота Настассі УТКІНАЙ.

ад soft skills – «гнуткіх» сацыяльных навыкаў і ўменняў: канцэнтрацыі ўвагі, імкнення да перамог, эмацыянальнага інтэлекту, тайм-менеджменту, здольнасці да самарэфлексіі, лагічнага мыслення, аналізу інфармацыі. І гэта, прашу заўважыць, даследаванне не пра шахматы... Але вы ўжо зрабілі самі высновы.

Каб дапамагчы свайму дзіцяці спраўляцца са зменамі нашага зменлівага свету і не «згубіцца» ў будучыні, важна развіваць менавіта soft skills. Лепшай пляцоўкай для набыцця гэтых навыкаў стане самі ведаеце што, прычым у любым узросце. Карыстаючыся выпадкам, перадаю ўсім зараз настрою і ўпэўненасці. З Міжнародным днём шахмат!

**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту Беларусі па шахматах.**

# Доўгачаканая перамога «Ашмянаў» і змены ў «Смаргоні»

**«Рэгіянальная газета» працягвае расказваць, як прайшлі футбольныя выхадныя ў камандах рэгіёна.**

### «Маладзечна» (другая ліга)

10 ліпеня маладзечанскія футбалісты сустрэліся з дзяржынскім «Адзінствам». Гульня прайшла ў рамках 11-га тура і скончылася на карысць «Маладзечна» з лікам **6:0**. Галы забівалі **Антон Бубноў, Сяргей Дрозд, Сямён Хаткевіч, Яўген Чычаў, Дзмітры Сярогін, Мікіта Мятліцкі.**

Наступны матч маладзечанцы правядуць супраць «Крупак» 18 ліпеня. «Маладзечна» – на першым месцы ў Мінскім дывізіёне ў зоне «Поўнач».

### «Вілія» (другая ліга)

У 11-м туры вілейскія футбалісты згулялі супраць чэрвеньскага «Коласа» – **0:1**. Адзіны гол у матчы забіў гулец «Коласа» **Павел Клімовіч** на 14-й хвіліне.

18 ліпеня «Вілія» згуляе з «Фалько» з Дзяржынскага раёна. «Вілія» знаходзіцца на восьмым месцы ў Мінскім дывізіёне ў зоне «Поўнач».

### «Ашмяны» (другая ліга)

11 ліпеня ашмянскія гульцы сустрэліся з камандай «Слонім-Сіці». Матч скончыўся доўгачаканай перамогай «Ашмянаў» – **3:2**. З боку ашмянскай каманды голам адзначыўся **Вадзім Галгоўскі**, а дубль забіў **Аляксей Клімовіч**. За «Слонім» забілі **Алег Герасімчык** і **Сяргей Мандрык**.

18 ліпеня «Ашмяны» згуляюць з гродзенскай «ЖКГ». «ФСК Ашмяны» займаюць перадапошняе месца ў Гродзенскім дывізіёне.

### «Астравец» (другая ліга)

10 ліпеня ў 11-м туры Гродзенскага дывізіёна другой лігі «Астравец» сустрэўся са «Шчучынам». Астраўчане былі мацнейшыя і разграмілі сапернікаў – **11:0**. Хет-трык забіў **Дзмітры Купнеўскі**, дублямі адзначыліся **Ягор Кашко** і **Уладзіслаў Знак**. Па адным голе забілі **Аляксандр Буцько, Уладзіслаў Зубрыцкі, Павел Лаўгач, Мікіта Букаткін**.

Наступная сустрэча ў астраўчан адбудзецца з «Цэментнікам» 17 ліпеня. «Астравец» – на першым месцы Гродзенскага дывізіёна.

### «Смаргонь» (вышэйшая ліга)

«Смаргонь» скончыла першы круг у вышэйшай лізе на перадапошнім месцы два тыдні таму, згуляўшы ўнічыю (2:2) з «Мінскам». Перад стартам другога круга смаргонскую каманду пакінулі некалькі футбалістаў, некалькі гульцоў дадаліся да складу. Таксама смаргонцы правялі кантрольныя матчы.

Са «Смаргоні» сышлі




Маладзечанскія і астравецкія футбалісты на першых радках турнірных табліц.

**Арсені Бандарэнка** (9 матчаў, 2 галы), **Леанід Ханкевіч** (10 матчаў, 1+1), **Уладзімір Маслоўскі** (9 матчаў), **Данііл Кавалёў** (9 матчаў).

**Раман Пасевіч** з гродзенскага «Нёмана» на правах арэнды будзе выступаць за смаргонскую каманду. Такая ж дамова ў **Кірыла Леановіча** з жодзінскага «Тарпеда», **Дзмітрыя Сібілева** з «Руху», **Данііла Сілінскага** з «Баранавічаў», **Данііла Шапко** з «Дынама-Мінск».

10 ліпеня «Смаргонь» згуляла супраць каманды «Дынама-Мінск» у кантрольным матчы. Смаргонцы перамаглі – **2:0**. У другім крузе, 17 ліпеня, «Смаргонь» згуляе з «Энергетыкам-БДУ».

**Настасся УТКІНА. Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
2. Сістэматызаваны набор аднародных прадметаў.
3. Шчыльныя, на дзве палавіны, крытыя зверху вароты, якія закрываюць галоўны ўваход на тэрыторыю горада, завода, двара.
6. Невялікая парнакапытная жвачная жывёліна.
7. Наклееная на тканіну ліпкая лекавая маса, якая прыкладваецца да ран, нарываў
8. Спецыфічная форма мастацкага адлюстравання рэчаіснасці, якой уласціва з'едлівае высмейванне розных адмоўных з'яў.
11. Нажны рычаг у машынах, механізмах.
12. Жыць, існаваць, быць у наяўнасці.
13. Асоба, якая вядзе справаводства, канцылярыю якой-небудзь арганізацыі або перапіску і справы прыватнай асобы.
14. Які адбываецца ў кароткі адрэзак часу.
19. Род літаратурных твораў, напісаных у форме дыялогу без аўтарскай мовы і прызначаных для пастаноўкі на сцэне.
20. Хворы ў адносінах да доктара.
22. Паліграфіст.
24. Шафа для посуду, сталовай бялізны, закусак, напіткаў.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Пра значную адлегласць да нечага.
4. Вадзяны вал, які ўтвараецца гайданнем паверхні вады.
5. Сорт цвёрдых цукерак, ледзянцовых ці з начынкай, прыгатаваных з цукру і патакі.
7. Чарцёж, які паказвае ў паменшаным выглядзе мясцовасць, прадмет, збудаванне.
9. Адасоблены сялянскі зямельны ўчастак разам з сядзібай уладальніка.
10. Зубны доктар.
12. Назва кіруючай часткі некаторых органаў, устаноў, арганізацыі, а таксама пасяджэнне яе складу.
14. Памяшканне для свойскай жывёлы, птушак.
15. Выцэджваць малако з вымя.
16. Хімічны элемент, які ўваходзіць у састаў вапняку, мармуру.
17. Гатунак цвёрдай вэнджанай кілбасы.
18. Перамяшчэнне якога-небудзь арганізаванага атрада людзей з пэўнымі мэтамі, заданнем.
21. Публічнае выкананне інструментальных, вакальных музычных твораў, а таксама харэаграфічных, дэкламацыйных і іншых нумароў па пэўнай праграме
23. Лірычны верш з 14 радкоў – двух чатырохрадкоўяў і двух трохрадкоўяў з асаблівым размяшчэннем рыфмаў.
24. Плітка, цаглінка з якога-небудзь спрасаванага матэрыялу.

## Адказы на крыжаванку з №28

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Тупік. 3. Набыць. 4. Тэтраэдр. 9. Пятрушка. 10. Мерыдыян. 11. Пшаніца. 12. Чмель. 13. Хустка. 16. Цеплата. 17. Цыкл. 21. Норма. 22. Туша. 23. Пячы. 24. Частка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Намёк. 5. Пярга. 6. Чэрап. 7. Хрып. 8. Тэрмінал. 13. Хмель. 14. Насілкі. 15. Хор. 17. Цішыня. 18. Ціна. 19. Цукат. 20. Тэніс. 23. Праступа. 24. Числo. 25. Навука.

## ГАРАСКОП НА 16-22 ЛІПЕНЯ



**АВЕН.** Планы, якія будавалі на гэты перыяд, могуць не спраўдзіцца. З сур'ёзнасцю пастаўцеся да фінансавых прапаноў, якія будуць вам паступаць. У асабістым жыцці, наадварот, менш думайце і больш адчувайце!



**ЦЯЛЕЦ.** Не бярыце на сябе больш, чым вам па сілах выканаць. Навучыцеся дэлегаваць, каб не перагарэць. Будзьце акуратныя з укладаннямі грошай, некаторыя могуць быць няўдалымі. У выхадныя адпраўляйцеся за горад.



**БЛІЗНЯТЫ.** Змены ў жыцці, на якія вы разлічвалі, пакуль лепш адкласці – не самы спрыяльны перыяд. На працы магчымае недастатковае разуменне з калегамі. Старайцеся не зацягваць канфлікт, інакш у далейшым будзе складана аднавіць адносіны.



**РАК.** Вам будзе здавацца, што вы нічога не паспяваеце. Збольшага гэта сапраўды так. Дзеці могуць патрабаваць больш увагі, чым звычайна. Будзьце гатовыя адкласці некаторыя справы.



**ЛЕЎ.** У гэты перыяд вас чакаюць прыемныя перамены. Не чакайце ніякага падвоху: вы сапраўды гэта заслужылі. У адносінах з каханымі бліжэй да канца тыдня можа здарыцца пераломны момант.



**ДЗЕВА.** Прадуктыўны перыяд. Прычым дома вы нічога не будзеце паспяваць, затое на працы – усё! Бонусы ў грашовым эквіваленце не прымусяць сябе чакаць. Зоркі раяць больш працаваць з зямлёй. Гэта прынясе супакаенне.



**ШАЛІ.** Чаму б вам не зладзіць рамантычны сюрпрыз для каханых? У гэты перыяд можа з'явіцца чалавек з мінулага, які выкліча ў вас шмат эмоцый. Трымайце сябе ў руках. Адпачынак цяпер лепш праводзіць актыўна.



**СКАРПІЁН.** Грошы, якія ўжо не спадзяваліся атрымаць, прыйдуць нечакана. Патрацьце іх з розумам. Магчыма, вас чакаюць паездкі, якія раней не планаваліся. Пагаджайцеся, асабліва калі гаворка ідзе пра адпачынак.



**СТРАЛЕЦ.** Не адчайвайцеся, калі нешта будзе ісці не так, як вам хацелася б. Неўзабаве вы зразумееце: усё да лепшага! Перыяд спрыяльны для дзелавых сустрэч.



**КАЗЯРОГ.** Калі вы з кімсьці пасварыцеся ў гэтыя дні, паспрабуйце памірыцца як мага хутчэй. На працы перад вамі могуць паставіць складаную задачу. Узважце ўсе за і супраць, перш чым пагаджацца. У выхадныя больш адпачывайце.



**ВАДАЛЕЙ.** Стрэс і трывога – вось што можа падвесці вас цяпер. Старайцеся мінімізаваць хваляванне. Сустрэчы будуць выключна прыемныя, а некаторыя нават знамянальныя. Не адмаўляйцеся ад запрашэнняў у госці – будзе цікава!



**РЫБЫ.** Малодшае пакаленне цалкам выйдзе з-пад кантролю. Калі ў вас ёсць дзеці – цярпення вам! Адзінокіх Рыб можа чакаць прыемнае знаёмства, але толькі калі вы самі будзеце на яго настроеныя.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 9 | | | 1 | | | | | 4 |
| 5 | | 1 | | | | | | 7 |
| | | | | | 5 | 8 | 2 | |
| 4 | 3 | 9 | | | | | | |
| 6 | 8 | | | 7 | 4 | | | |
| 7 | | 2 | | | | | 4 | |
| 8 | 6 | | | 5 | 3 | | | |
| | 9 | | 6 | | 8 | | | |
| 2 | | | | | 1 | 3 | 6 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



Рэгіянальная газета. Rh.by



## Дзякую доктару Бажко

**Хачу выказаць падзяку загадчыку Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера Аляксандру Пятровічу Бажко.**

Мая дачка хворая на эпілепсію і стаіць на ўліку ў псіханеўралагічным дыспансеры. Таму доктара Бажко ведаю даўно. Аднойчы, калі я з Гануляй гуляла, яна спатыкнулася і ўпала.

У гэты час міма ехала «хуткая дапамога».

> Машына раптам развярнулася, заехала на тратуар і адтуль выскачыў доктар Бажко, каб аказаць дачцэ дапамогу.

Ён думаў, што ў Ганулі эпілептычны прыпадак. Ужо колькі гадоў прайшло, а я не магу забыцца пра той выпадак.

Дзякуй Вам, доктар, за Вашу спагаду і ахвярнасць, гатоўнасць прыйсці на дапамогу. Усё будзе добра!

**Маргарыта СОБАЛЬ, Маладзечна.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Аляксандр Бажко.



## Чытайце праз тыдзень:

**Ад 9 ліпеня ў вёсцы Рэчкі на Вілейшчыне археолагі з Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ладзяць раскопкі на месцы старажытнай замкавай гары і курганнага могільніка. Пра знаходкі навукоўцаў чытайце ў наступным нумары.**

## 17 ліпеня, субота

**Вецер:** паўднёвы, 5-6 м/с




Усход 4.52
Захад 21.44
Даўжыня дня 16.52

Усход 4.36
Захад 22.36
Месяц расце

Паводле rp5.by.

## Падпіска на «Рэгіянальную газету» не спыняецца!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.50 / 4.11 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання);
- на квартал – 16.50 / 12.33.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 19 / 17.33;
- на квартал – 57 / 51.99.

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*

● АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## А ці лавілі вы калі-небудзь рыбу?

У 2020 годзе ў вадаёмах Беларусі вылавілі 15,2 тысячы тон рыбы. На аматарскі ўлоў прыйшлося каля 5,6 тысячы тон. Адной з папулярных формаў вольнага часу з'яўляецца аматарскае рыбалоўства. За 2020 год на вядзенне платнага аматарскага рыбалоўства рэалізавалі 132,3 тысячы пуцёвак агульным коштам 1,8 мільёна рублёў. Кошт адной пуцёўкі ў сярэднім склаў 13,6 рубля. «Рэгіянальная газета» запыталася, а ці вудзяць рыбу нашы чытачы.



**Алеся:**
– Ніколі не лавіла.



**Святлана:**
– Была ў мінулым годзе на рыбалцы. Лавілі разам з мужам на чарвякоў. Для першага разу ўлоў атрымаўся добры.



**Аляксандр:**
– У гэтым годзе не лаўлю, займаюся сваім здароўем, нагамі.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

### Улоў рыбы насельніцтвам Беларусі ў 2020 годзе (па дадзеных выбарачнага даследавання дамашніх гаспадарак, тоны)




### Улоў рыбы насельніцтвам Беларусі ў 2020 годзе (па дадзеных выбарачнага даследавання дамашніх гаспадарак, тоны)

| | |
|---|---|
| Карп | 6 393,9 |
| Таўсталобік | 840,6 |
| Амур | 326,7 |
| Ласасёвыя | 240,6 |
| Асятровыя | 147,5 |
| Сомавыя | 8,9 |

**Дадзеныя Беларускага статыстычнага камітэта да Сусветнага дня рыбнай лоўлі.**

Рэгіянальная газета. Rh.by Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№29 (1368) 16.07.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1190. Падпісана ў друк у 9.00 15.07.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.